Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская 2—11
(Wilno, Ostrobramska 2—11).
Адчынена ад 9 да 19 г.

Часапіс выходзіць раз у месяц

Выпіска: на год 2 зал.
на паўг. 1 зал.
на 3 м-цы 50 гр.
Нумар паштовага разрахунку: 100.

№ 13 (22) | Вільня, 5-га сьнежня 1937 г. | Год II.

## Паміж Нямеччынай і Расеяй.

Загаловак гэтага артыкулу мы ўзялі з кніжкі польскага палітыка Адольфа Бохэнскага, які належыць да групы маладых польскіх імпэрыялістаў, або г. зв. моцарствоўцаў, зьвязаных з віл. „Słowam". Ягоная кніжка „Między Niemcami a Rosją", выданая нядаўна, нарабіла многа шуму і дыскусія над ёю ня сходзіць з бачын польскіх газэт і часапісаў. Праўду кажучы, ёсьць у тэй кніжцы шмат сьмелых, а нават рызыкоўных думак, шмат праектаў, якія датычаць імкненьняў польскай палітыкі, а асабліва яе імкненьняў на Усход. гаворыцца такжа аб Украіне і Беларусі, дык пазнаньне асноў гэтай кніжкі будзе для кожнага беларуса цікавым і карысным. У кніжцы прадстаўлены мэты ня толькі *польскай* палітыкі на Усходзе, але і *нямецкай*, што ў сучаснасьці выклікае асаблівшае, бо падвойнае заінтарасаваньне.

Зьмест кніжкі ў агульных рысах такі:

Польшч знаходзіцца цяпер у вялікай небясьпецы, бо ляжыць паміж двама волатамі: Нямеччынай і Расеяй. Гэтая небясьпека можа яшчэ павялічыцца, калі гэтыя два волаты, з сяньняшніх праціўнікаў стануць прыяцелямі і загрозяць Польшчы, так як гэта было 150 гадоў таму. А гэта магчыма, бо палітыка ёсьць зьменнай. Значыць, у інтарэсе Польшчы ляжыць, каб гэтых небясьпечных суседзяў аслабіць. Нямеччыну аслабіць трудна, бо пры ўзросьце цяперашніх нацыянальных ідэяў яе падзяліць на некалькі дзяржаў немагчыма. Яна можа яшчэ ўзмацавацца праз далучэньне (аншлюс) Аўстрыі. Зусім што другое з Расеяй: яе можна падзяліць на некалькі дзяржаў: Украіну, Беларусь, Каўказ, Туркестан і інш. Гэты падзел магчымы таму, што Расея ў большасьці складаецца з нацыянальных меншасьцяў, якія сяння знаходзяцца пад уплывам прынесеных з зах. Эўропы нац. ідэяў. Але Польшч сама падзелу Расеі ня зробіць, дык трэба пашукаць саюзьнікаў, а гэтымі саюзьнікамі зьяўляюцца немцы, якія могуць здушыць бальшавікоў і якія да гэтага выражаюць сваю ахвоту. Дык у інтарэсе Польшчы ёсьць заключыць саюз з Нямеччынай і супрацоўнічаць з ёю ў падзеле Расеі. Калі Польшч выкарыстае гэту аказію, дык адзін сусед будзе разгромлены і знэўтралізаваны праз падзел яго на варожыя да сябе дзяржавы. Гэты падзел дасьць Польшчы магчымасьць пашырыць яе культурныя і эканамічныя ўплывы на ўсход і ў рэзультаце зробіць яе магутнай дзяржавай. Прыгэтым рыская мяжа астаецца ненарушальнай.

Гэтакі ёсьць у агульных рысах плян польскай палітыкі на ўсходзе паводле кніжкі Ад. Бохэнскага.

Якое-ж наша становішча адносна гэтай кніжкі і яе плянаў?

Каб адказаць на гэтае пытаньне, мы разгледзім прадусім, якія існуюць *труднасьці* ў рэалізацыі гэтых плянаў як з боку Польшчы, так з боку Нямеччыны, інакш кажучы, падойдзем да праекту Бохэнскага з *практычнага* пункту гледжаньня. *З боку Польшчы* маем такія перашкоды: 1) непадгатаванасьць польскага грамадзянства, польскіх дзяржаўных і палітычных дзейнікаў для рэалізацыі гэтых плянаў. Польшч у свой дзяржаўны лад увяла вялікую цэнтралізацыю, аснованую на бюракратычным апараце, а як ведама, бюракрацыя ёсьць найболей кансэрватыўнай часткай грамадзянства і не падаецца рэформе ў кірунку дэцэнтралізацыі. Прыгэтым Польшч ня мае праўдзівага самаўраду, які ёсьць школай грамадзкага жыцьця і які робіць людзей поўнапраўнымі і адказнымі грамадзянамі дзяржавы. Апроч гэтага польскае грамадзянства псыхічна непадгатавана, каб увайсьці ў саюз з беларусамі, як роўныя з роўнымі, бо глядзіць на іх, як на нешта ніжэйшае, яно не разумее і не шануе іх нац. асаблівасьцяў. А без узаемнай пашаны немагчымы саюз.

2) Польшч у сябе не памагае беларускаму народу ў яго нацыянальным, культурным і эканамічным разьвіцьці. Ужо не гаворучы аб аўтаноміі ці самаўрадзе, беларусы ў Польшчы ня маюць сваіх ніжэйшых, сярэдніх і вышэйшых школаў, ня маюць голасу ў польскіх заканадаўчых і адміністрацыйных органах. А каб ісьці на ўсход, трэба стварыць такія варункі, каб Польшч была прыцягваючай сілай для ўсходу, а не наадварот, і трэба. каб у гэтым паходзе прымалі ўдзел і беларусы. Інакш можа стварыцца вельмі небясьпечнае палажэньне. Дагэтуль прыцягваючай сілай для беларускага насельніцтва зьяўляецца ня захад, а ўсход —і то ня толькі ў грамадзкіх справах, але і нацыянальных. Ці п. Бохэнскі аб гэтым ведае?

3) Апірацца выключна на нацыянальныя мамэнты ў паходзе на ўсход ня можна, бо яны не адыгрываць рашаючай ролі ў беларускім народзе, для каторага патрэбаў болей маюць значэньне сацыяльныя мамэнты. Каб бел. народ меў поўны давер да польскай усходняй палітыкі, трэба тут у Польшчы правесьці зямельную рэформу; з клічам зямельнай рэформы ісьці на ўсход; трэба даць беларусам магчымасьць разьвіваць сваё эканамічнае жыцьцё ў каапэратызьме. А тымчасам цяпер усяго гэтага няма, а нават ёсьць факты супярэчныя з інтарэсамі беларускага народу, як асадніцтва, калянізацыя, а апошнім часам утрудненьні купляць зямлю ў пагранічным поясе. З такім палітычным багажом праводзіць усходняй палітыкі ня можна.

4) Беларусы ня вераць у шчырасьць польскіх „моцарствоўцаў", якія згуртованы каля віл. „Słowa" і варшаўскай „Polityki" (даўней „Bunt Młodych"), і якія гавораць аб стварэньні незалежнай Беларусі. Орган Бохэнскага Bunt Młodych" пару гадоў таму пісаў, што Польшч павінна ісьці на ўсход разам з Нямеччынай з мэтай эксплёатацыі гэтага Усходу. У зблiжаным да польскіх „моцарствоўцаў" віленскім „Słowie" п. Мацкевіч пахваляе пляны Бохэнскага, а мы ведаем, што ў праграме п. Мацкевіча ёсьць бязлітасная асыміляцыя беларусаў. З гэтым п. Мацкевіч нават ня крыецца, але публічна заяўляе на бачынах „Słowa". Болей таго — паўгода таму п. Мацкевіч у „Słowie" (20. V. 37 г.) цьвярдзіў, што марш. Пілсудскі хадзіў у 1920 г. здабываць Кіеў не для Петлюры або Украіны, а для сябе і Польшчы... Мы ня верым у тое, каб марш. Пілсудскі меў такія намеры, але гэтыя словы Мацкевіча сьведчаць аб сапраўдных імкненьнях польскіх "моцарствоўцаў". Дзеля гэтага з „моцарствоўцамі" беларусы ў усходніх плянах супрацоўнічаць ня могуць.

Калі яшчэ возьмем пад увагу цяперашнія франкафільскія і антынямецкія настроі большасьці польскага грамадзянства, пачынаючы ад эндэцыі і Стронніцтва Працы, а кончачы на людоўцах і ППС, трудна дапусьціць магчымасьць рэалізаваць пры такой апазыцыі ўсходнія пляны. За ўсходнія пляны п. Бохэнскага выказваецца толькі санацыйная правіца, якая ўскрашае пляны Пілсудскага.

А цяпер разгледзім труднасьці з *боку Нямеччыны*: 1) Нямеччына, як ведаем, з Саветамі не гранічыць, і каб дайсьці да іх, мусела-б правесьці сваю армію праз Польшч. Гэта можа стацца са згоды або проціў згоды Польшчы. Бохэнскі стаіць за тое, каб дазволіць нямецкай арміі прайсьці праз Польшч, бо гэта яшчэ не нарушыць сувэрэннасьці Польшчы. Толькі пытаньне, ці польскія дэцыдуючыя дзейнікі згодзяцца зрабіць Польшч арэнай змаганьня паміж камунізмам і фашызмам? Нам здаецца што не.

2) Нямеччына ня мае апрацаванага пляну адносна Расеі. Абваліць бальшавікоў бэрлінскія каналы (як выражаецца Бохэнскі) могуць лёгка, але што далей? Чым замяніць Саветы? Што будаваць на руінах камунізму: манархію, фашыстоўскую дзяржаву ці дэмакратычную рэспубліку? І на кім будаваць? Расейскае грамадзянства, як унутры так і на эміграцыі, здэзарганізавана (каб не сказаць: здэмаралізавана), яно сваімі сіламі ня здолее стварыць моцнага ладу, які-б абняў спадчыну па бальшавікох. Трэба ўзяць пад увагу яшчэ і тое, што праз нейкі час пасьля разгрому Саветаў, бальшавізм будзе ў Расеі даволі сільны. Праўда, Нямеччына творыць кадры расейскіх фашыстаў, ёсьць такжа ў Бэрліне цэнтраля эўразійскага руху. але гэтыя арганізацыі яшчэ вельмі слабыя, каб абхапіць усё дзяржаўнае жыцьцё вялікай Расеі.

3) У беларускай справе Нямеччына таксама ня мае яснай праграмы, так як ня мела яе ў 1918 годзе. У сучаснасьці немцы разглядаюць бел. справу, як частку расейскай справы і хочуць яе зьмясьціць у расейскай фашыстоўскай арганізацыі, з нейкай аўтаноміяй. На гэтакую канцэпцыю беларусы ня пойдуць.

Значыць і з боку Нямеччыны ёсьць труднасьці ў рэалізацыі ўсходніх плянаў. Калі да гэтага дабавім яшчэ перашкоды з боку Францыі, Англіі і іншых дзяржаў, дык прыдзем да вываду, што рэалізаваць усходнія пляны як для Польшчы, так і Нямеччыны пакуль-што вельмі трудна.

Кніжка Бохэнскага тэорэтычна збудавана добра, але практычнага вялікага значэньня ня мае, бо ў ёй не паказаны спосабы, як рэалізаваць тэорыю. Дзеля гэтых практычнага характару недахватаў мы да яе адносімся нэгатыўна.

Але трэба прызнаць, што кніжка Ад. Бохэнскага мае адно і практычнае значэньне: яна ставіць беларускую справу на парадак дня ў міжнародным маштабе.

## Новыя факты ў польска-літоўскім споры.

Прычыны і сутнасьць польска-літ. спору мы шырока абгаварылі ў н-рох 6 і 7 „Б. Фр." сёлета, але апошнім часам усплылі з глыбіні гэтага спору наўзьверх палітычнага жыцьця новыя факты, якія паставілі гэты стары спор ізноў на парадак дня Гэтыя факты адносна літоўцаў у Польшчы такія: 1) спыненьне пашыранай народнай газэты „Vilniaus Rytojus", 2) спыненьне дзейнасьці Літ. Дабрадзейнага Т-ва, 3) асуджэньне б. старшыні Літ. Нац. Камітэту ў Вільні К. Сташыса на 1 год турмы і 10 тысяч зл. штрафу.

Спыненьне газэты „Vil. Rytojus" ня былоб такім балючым, калі-б польскія ўлады далі дазвол на выдаваньне другой газэты, але гэтага дазволу не даюць, паміма літоўскіх стараньняў. Спыненьне дзейнасьці Літ. Дабрадз. Т-ва вельмі балючае тым, што Т-ва мае на ўласнасьць многа рухомай і нярухомай маемасьці, якая цяпер знаходзіцца пад „забеспячэньнем" уладаў. Асуджэньне К. Сташыса, фармальна бяручы, было выклікана яго паступаньнем, супярэчным з ня так даўно абвешчаным дэвізавым законам, рэгулюючым грашовыя выплаты на заграніцу.

Гэта ёсьць тры факты, але пракурор у часе працэсу К. Сташыса прадказаў чацьверты і найважнейшы, іменна, будучы вялікі працэс проціў усіх сяброў б. Літ. Нац. Камітэту ў Вільні, на чале з К. Сташысам, за здраду Польскай Дзяржавы... Сьледзтва ў гэтай справе, паводле заявы пракурора, ўжо вядзецца.

Прыгледаючыся да ўсяго гэтага мімаволі прыходзіць пытаньне, чым усё гэта скончыцца? А гэта нас інтарасуе, бо такі ці іншы канец польска-літ. спору датычыць і нас беларусаў.

Апошнія падзеі пачаліся яшчэ 20. XII. 35 г., калі віленскі ваявода заклікаў да сябе К. Сташыса, як старшыню Літ. Нац. К-ту і заявіў яму, што Польшч ня будзе далей пераносіць прасьледу палякоў у Літве і віл. літоўцы павінны зрабіць націск на літоўскі ўрад у Коўне, каб ён спыніў гэны прысьлед. Віленскія літоўцы адказалі, што яны ня маюць уплыву на ковенскі ўрад і нічога ў гэтай справе ня могуць зрабіць. Ад гэтага часу пачалося ў Польшчы закрываньне літ. школ, арганізацыяў, чытальняў і г. д.

Спачатку думалі, што гэтыя

способы тасуюцца па пачыну віл. ваяводы і на яго адказнасьць („Słowo“), але скора выясьнілася, што гэтая зьмена адносна літоўцаў—гэта палітыка цэнтру і мін. Бэка. Падставай да тасаваньня рэпрэсіяў, паводле польскай прэсы, было нязгоднае з законамі паступаньне літоўскіх арганізацыяў і дзеячоў, на што ўлады глядзелі дагэтуль праз пальцы, спадзяючыся ад Літвы зьмены адносін да Польшчы і згоды. Мэтай гэтай зьмены ёсьць прымусіць Літву спыніць у сябе прасьлед польскага насельніцтва, якое быццам гіне ў Літве і знаходзіцца перад аканчальнай ліквідацыяй. Мы не бяромся судзіць, наколькі гэтыя весьці аб аканчальным вынішчэньні польскага насельніцтва ў Літве ёсьць праўдзівыя; магчыма, што гэтыя весьці шмат павялічаны, так як павялічаны ў літ. прэсе весткі аб вынішчэньні літоўцаў у Польшчы, але трэба сьцьвердзіць, што паміж Польшчай і Літвою дайшло да вялікага завастрэньня і так вострых адносін і гэтае завастрэньне можа прывесьці да штораз болей рашучых падзеяў. Ці дойдзе да вайны—згадаць трудна. Праўда, „Kurjer Wil.“ два разы прыпамінаў словы марш. Пілсудскага, сказаныя ў Жэнэве да тагачаснага прэм'ера Літвы Вальдэмараса: „Мір ці вайна“?, але паміма ўсяго да вайны, здаецца, ня дойдзе. Ніхто ня хоча віклікаць у цяперашні трывожны час яшчэ аднаго ваеннага пажару, дый Літва, хоць сама заслабая, каб ваяваць з Польшчай, то знаходзіцца ў тых выгодных абставінах, што яе існаваньне карысна для іншых яе суседзяў: Нямеччыны і Латвіі, якія будуць ей спагадаць на выпадак вайны. Бо як для Нямеччыны так і для Латвіі было-б вельмі некарысна, каб Літву заняла Польшч, так як некарысна было-б для Польшчы, каб Літву заняла, скажам, Нямеччына. У такіх абставінах магчымае ўмяшаньне нейкай трэцяй дзяржавы з мэтай арбітражу (палюбоўнага суду), але ці арбітраж здаволіць абедзьве староны — мы вельмі сумневаемся. А тымчасам, пакуль ня знойдуцца іншыя спосабы, будуць разьвівацца падзеі як з аднаго боку так і з другога. У Літве, як чуваць, гатовяцца новыя рэпрэсіі адносна польскага насельніцтва, чаго дамагаюцца літоўскія студэнты.

У сувязі з працэсам К. Сташыса аб літоўскай справе многа пісала польская прэса. І так, „Gazeta Polska“, зблізаная да польскага ўраду, асабліва да мін. Бэка, пісала, што прычын арыштаваньня К. Сташыса і працэсу трэба шукаць у дзейнасьці, скіраванай процiў Польскай Дзяржавы, а віленскае „Słowo“ (6. XI.) разважала справу з пункту міжнароднага, пішучы так: „Працэс К. Сташыса—гэта выясьняючы дадатак (przyczynek) да польска-нямецкіх адносін... Супрацоўніцтва польска-нямецкае павінна палажыць канец нязносным польска-літоўскім адносінам“. Значыць „Słowo“ спадзяецца, што пры навязаньні польска-нямецкага супрацоўніцтва Нямеччына сваім аўторытэтам прымусіць Літву да ўступак на карысьць Польшчы. Але „Słowo“ павінна ведаць і аб тым, што ў міжнародных справах нічога дарма ня робіцца і за гэта Нямеччына зажадалаб уступак ад Польшчы...

„Ilustrowany Kurjer Codzienny“, у апошніх днях лістапада прынёс вялікую сэнсацыю, што быццам на вясну Літву мае заняць Нямеччына! А каб гэтага ня сталася, ІКС заклікае Літву да згоды з Польшчай... У апошніх славах крыецца ўвесь сэнс гэтай сэнсацыйнай весткі... Але каб сапраўды сталася так, што Нямеччына заняла Літву пад прэтэкстам, што ў Літве знаходзіцца савецкая лятунская база, дык гэты факт сьведчыў-бы аб супрацоўніцтве Польшчы з Нямеччынай і аб уступках на карысьць Польшчы з боку Нямеччыны. Якія ўступкі зрабіла ці зробіць Нямеччына — згадаць трудна, нам здаецца, што дэкляарацыі аб спагадлівым адношаньні да польскай меншасьці ў Нямеччыне яшчэ мала, трэба былоб нечага болей рэальнага. Урэшце вестка ІКС натолькі сэнсацыйная, што ў яе трудна паверыць. Каб Ням. заняла Літву дый яшчэ Латвію, як піша ІКС, Польшч былаб акружана Нямеччынай, а на гэтае Польшч дабравольна ня пойдзе.

З гэтага вывад такі, што польска-літ. спор робіцца штораз болей гарачым, што Польшч і Літва палюбоўна яго ня вырашаць, што ідуць стараньні, каб *прымусіць* Літву да ўступак. Ці гэтая сыстэма давядзе да нейкага пазытыўнага рэзультату у кірунку згоды — пакажа недалёкая будучыня.

*А.В.*

## Ад рэдакцыйнай калегіі „Б. Фронту“.

Зьмяшчаючы ніжэй адказ сябры нашае рэдакцыйнае калегіі кс. В.Гадлеўскага, заяўляем, што ў ніякую палеміку з „Шляхам М.“ уваходзіць ня будзем дзеля прычын, аб якіх мы пісалі. Адзначаем толькі, што „Шлях М.“ у н-ры 15 перайшоў на асабістую лаянку, выбраўшы пакульшто аб'ектам кс. В. Гадлеўскага. „Шлях М.“ тасуе прыгэтым мэтады, даўно неспатыканыя ў беларускай прэсе.

*Рэдакцыйная Калегія.*

## Мой адказ „Шляху Моладзі“.

Хоць „Бел. Фронт“ быў ужо пастанавіўшы спыніць палеміку з „Шляхам Мол.“, але затым што апошняя напасьць „Ш. М“. скіравана процiў мяне асабіста, даю адказ.

„Шлях М.“ у н-ры 15 сёлета прысьвяціў маей асобе два артыкулы, у якіх перайшоў з прынцыпова-палемічнага становішча на асабістую сварку, уважаючы мусіць, што гэта яму болей паможа і вывядзе яго з труднога палажэньня, у якім ён апынуўся. Аднак дарэмна — асабістая сварка яшчэ нікога не паратавала, а людзі, знаючы прычыны і ход нашай папярэдняй палемікі, зразумеюць, у чым тут справа. Уважаю, што *асабісты характар* апошніх двух артыкулаў ёсьць найслабейшым іх месцам. Але пярэйдзем да паасобных пунктаў:

1) Аб перагаворах „ШляхуМ.“ з палякамі даведалася беларускае грамадзянства з таго-ж „Шляху М.“ і з тае часьці перадавога артыкулу ў н-ры 9 сёлета, якая ня была сканфіскавана. Аб гэтым усе ведаюць і гэтага скрыць ужо ня ўдасца.

2) Ведама також ўсім, хто заяўляў у прэсе аб сваіх пазытыўных адносінах да „народнага фронту“, аб гэтым ведама і рэдакцыі „Шляху М.“, бо гэта асоба да яго вельмі блізкая, дык віноўнікаў трэба шукаць не ў каго другога, а ў сябе. Аб гэтым было ў н-ры 6-ым „Бел. Фронту“ сёлета і прозьвішча тае асобы паўтараць не хачу.

3) Вёска Буйбы, паколькі мы ведаем, ляжыць у Ашмяншчыне, пры дарозе з Смургонь у Беніцу.

4) На памятнік па А. Левіцкаму ня толькі ня даў я, але і многія, а гэта з тэй прычыны, што справа была пастаўлена *не паграмадзку*. Бо ці „Шлях М.“ паклікаў да гэтага які камітэт, зложаны з прадстаўнікоў також старэйшага грамадзянства? Ці перад заказам памятніка „Ш. М.“ запрасіў якога спэцыяліста, каторы-б даў практычную раду, як будаваць памятнік? Гэтага ўсяго ня было. Ужо толькі калі работа прыбліжалася да канца, запрасілі сябру нашай рэд. калегіі інжынера - архітэкта Л. Дубейкаўскага, але ён прызнаў непрактычнасьць будовы. Дык як можна на такі памятнік ды яшчэ пры такой неграмадзкасьці „Шляху М.“ даваць грошы? Сапраўды, дзіўная і незразумелая прэтэнсія! Але яшчэ дзіўней, што рэдактары „Шляху М.“ лаюць таго, хто ня даў! Ці і гэта належыць да праяваў культуры і этыкі?

5) Тэлеграма Вільгельму II была выслана *Радай* Беларускае Народнае Рэспублікі пасьля прыходу ў Менск немцаў. Я, як сябра Рады БНР, гэтага першага беларускага парляманту, хоць ня быў ініцыятарам тэлеграмы, аднак уважаў яе разам з усей Радай за акт вялікага дыпляматычнага значэньня. Можа „Ш. М.“ яшчэ замалады, каб зразумець сэнс дыпляматычных ходаў, але гэта не памяншае значэньня таго акту. Прыгэтым тэлеграма не нарушала акту 25 сакавіка адносна незалежнасьці, бо Рада зварочвалася да Нямеччыны з просьбай якраз абараніць гэту незалежнасьць, якой не маглі абараніць самі беларусы. Тэлеграма была выслана месяц пасьля абвешчаньня незалежнасьці. Чаму „Шлях М.“ не падаў зьместу тэлеграмы? Вось яе зьмест:

„Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, як абраная прадстаўніца Беларускага народу, зьвяртаецца да Вашай Імпэратарскай Вялікасьці са славамі найглыбейшай падзякі за асвабаджэньне Беларусі нямецкімі вайскамі з цяжкога ўціску чужога пануючага зьдзеку і анархіі. Рада БНР дэкляравала незалежнасьць цэльнае і недзялімае Беларусі і просіць Вашу Імпэратарскую Вялікасьць аб абароне ў яе імкненьнях (Bestrebungen) дзеля умацаваньня дзяржаўнай незалежнасьці і недзялімасьці краю ў зьвязку (im Bunde) з Германскай імпэрыяй. Толькі

# Лік беларусаў у Польшчы.

(*Працяг, гл. № 12 „Бел. Фр.“*)

**Палескае ваяводзтва.**

Азначыць лік беларускай масы ў Палескім ваяводзтве можа трудней, чым у Беластоцкім. Труднасьці паўстаюць перад усім з тэй прычыны, што насельніцтва Палескага в. ёсьць у большасьці сапраўднай этнаграфічнай масай, ня ведаючай, куды сябе залічыць, да беларусаў ці да ўкраінцаў. Самі сябе яны называюць найчасьцей паляшукамі, але трэба прызнаць, што ў апошніх гадох нацыянальнае ўсьведамленьне ў іх значна пашырылася, прыгэтым паўночнае Палесьсе азначае сябе беларускім, а паўднёвае — ўкраінскім. Есьць надзея, што за пару дзесяткаў гадоў яно азначыць сябе аканчальна і тады аўтаматычна зьнікнуць прычыны да спрэчак паміж беларусамі і ўкраінцамі за Палесьсе. Вялікай перашкодай у скорым і поўным самаазначэньні ёсьць спэцыяльная тэндэнцыя некаторых польскіх дзейнікаў, а паміж іншым і Галоўнага Статыстычнага Ураду ў Варшаве. Тэндэнцыя некаторых польскіх дзейнікаў ідзе да таго, каб *недапусьціць баларускіх і ўкраінскіх уплываў на Палесьсе*, а Гал. Стат. Урад да сьпісу 1931 году наладзіў быў адумысловую анкету на пытаньне, якія рубрыкі ўводзіць у сьпісныя аркушы? Найбольшую ўвагу ў гэтай анкеце зьвярнулі на вырашэньне пытаньня, якім спосабам азначаць нацыянальнасьць грамадзян: ці на падставе мовы, якой яны ўжываюць, ці на падставе іх заяваў аб сваей нацыянальнасьці? Пасьля доўгай дыскусіі Галоўны Стат. Урад прыняў першую канцэпцыю, іменна, каб вырашаць нацыянальнасьць грамадзян на падставе мовы, якой яны ужываюць. Якую мэту мелі афіц. польскія дзейнікі ў такім вырашэньні справы, згадаць трудна, але трэба прызнаць, што гэтае вырашэньне памагло і нам рабіць свае статыстычныя падлічэньні, бо і мы апіраемся на моўных азнаках і залічаем да беларускага народу тых, хто ў сваім штодзенным жыцьці ўжывае бел. мовы.

Але Гал. Стат. Урад увёў яшчэ адну рубрыку, неспатыканую, здаецца, нідзе на сьвеце, рубрыку *тутэйшых*. У гэтай рубрыцы перапісчыкі мелі зьмяшчаць усіх, хто ня мог азначыць сваей нацыянальнасьці або сваей мовы. Думка сама ў сабе можа і добрая, (бо сапраўды некаторыя ня могуць азначыць сваей народнасьці і нават мовы, якой ужываюць у штодзенным жыцьці), але пад варункам, каб яна была праводжана на *ўсім* абшары Дзяржавы, тады ў кожным павеце магчыма знайшлосяб пару сотак (ці тысяч) асоб, якія дзеля тых ці іншых прычын не змаглі азначыць сваей нацыянальнасьці. Аднак слабою старанόю гэтай канцэпцыі было тое, што яна праводзілася толькі на абшары Палескага ваяводзтва! Зараз за межамі гэтага ваяводзтва, хоць там насельніцтва зусім падобнае, рубрыка „тутэйшых“ пустуе, затое у Палескім в. у гэтых рубрыках сотні тысяч!

Беларусы, робячы статыстычныя досьледы на абшары сяньняшняга Палескага ваяв. звычайна паклікаюцца на *гістарычную мяжу*, якая аддзяляла д. Вял. Княства Літ—Беларускае ад Валыні, якая даўней належала да „Кароны“, г. зн. Польшчы (адрож. „Карона“ і „Літва“). Гэтая мяжа праходзіла па граніцы даўнейшых Горадзенскай і Менскай губэрняў і абыймала сяньняшнія паўднёвыя паветы Палескага в.: Столінскі, Пінскі, Драгічынскі, Кобрынскі, Берасьцейскі. Гістарычная мяжа асталася ў памяці народу, які чуецца болей зблізаным да Беларусі, чым да Украіны. Але ці на гэтай мяжы можна апірацца на даўжэйшую мэту ў сучаснасьці? Здаецца, што не, бо ў некаторых паветах (напр. Драгічынскі, Кобрынскі) украінскія ўплывы большыя за беларускія і паводле некаторых прымет насельніцтва тамашняе, асабліва ў паўднёвых частках гэтых паветаў, належыць да ўкраінскай этнографічнай масы. Уважаем прыгэтым, што прэтэнсіі некаторых украінс. палітыкаў і этнографаў да ахапленьня і паўночных частак Палескага в. ня маюць пад сабою ніякіх падстаў. Але пярэйдзем да агляду паасобных паветаў.

*Лунінецкі* пав. прастору мае 5,678 кв. км., насельніцтва 108 з пал. тыс., на 1 кв. км. 19 чал. (многа незаселеных балот!); каталікоў 14 тыс., правасл. 86 тыс., жыд., 8 тысяч; польская мова 16 з пал. тыс., беларус. блізу 3 тысячы, „тутэйшая“ 80 тысяч, рэшта жыды і іншыя. Як бачым, гаворачых „патутэйшаму“ найболей! Якая гэта мова і чаму яна завецца „тутэйшай“, афіц. статыстыка не гаворыць. Выглядае, што толькі гэная неазначаная мова ёсьць „тутэйшай“, а ўжо беларуская, украінская або і польская, хоцьбы ею нехта і гаварыў у Лунінецкім ці іншым павеце, ужо ня будзе „тутэйшай“! У гэтай супярэчнасьці і ляжыць слабое месца ўсей канцэпцыі „тутэйшасьці“. Мы лічым увесь Лунінецкі пав. за этнаграфічна беларускі і беларускай этнагр. масы лічым там найменш 95 тысяч.

*Косаўскі* пав. прастору 3,562 кв. км., насельніцтва блізу 84 тыс. на 1 кв. км. 23 чал. каталікоў 8 тыс., правасл. 69 тыс., жыд. 6 тыс., польская мова 8 з пал. тыс., беларус. 14 тыс., „тутэйшая“ блізу 54 тыс., рэшта іншыя. Гэты павет этнаграфічна беларускі і гаворачых пабеларуску там ёсьць 75 тыс.

*Пружанскі* павет прастору

# На беларускім грунце.

*(Агляд беларускага жыцьця).*

### У справе беларускага школьніцтва.

Ужо некалькі разоў беларусы пробавалі здабыць сваю школу і кожны раз іх пробы кончыліся няўдачай. Але ці гэта доказ, што мы маем згадзіцца з сваім палажэньнем? Мы ўважаем, што не! Мы павінны ў Польшчы здабыць сваю школу абавязкава, калі мы гэтага ня зробім, мы дадзём доказ сваей слабасьці. Мы ўжо пісалі ў „Бел. Фронце", што беларусы маюць *натуральнае права* вучыць сваіх дзяцей у сваіх родных беларускіх школах і гэтага права не зрачэмся ніколі. Нам гварантуюць беларускую школу і *польскія законы*, дык ці мы настолькі слабыя, каб з гэтага закону не скарыстаць? Мы павінны за свае правы змагацца ў граніцах Польшчы да канца: гэтага вымагае наша нацыянальная чэсьць! Братні нам Украінскі народ ладзіць у 1938 годзе школьны плебісцыт, дык наладзім яго ў гэтым самым годзе і мы!

Украінцы арганізуюць па ўсім краі спэцыяльныя школьныя камітэты. нам гэтага ня ўдасца зрабіць, бо мы знаходзімся ў горшых варунках. Нам трэба ісьці іншаю дарогаю і рабіць гэта прыватна. Кожны грамадзянін мае права падаць дэкларацыю на сваю родную школу, кожны грамадзянін мае права выпісаць яе ці дастаць ад сваіх знаёмых, мае права занесьці яе на пацьверджаньне ў гміну і выслаць школьнаму інспэктару. Дык чамуж не зрабіць гэтага?

Дзеля гэтага „Бел. Фронт" падае такі праект: 1) Абвесьціць у душы кожнага беларуса год 1938 годам складаньня дэкларацыяў на беларускую школу, няхай аб гэтым абвесьціць кожны беларускі часапіс, 2) Кожны беларус няхай дастане прыватным спосабам (або напіша ад рукі) школьную дэкларацыю, няхай запоўніць яе, занясе ў гміну на пацьверджаньне і вышле школьнаму інспэктару. 3) Аб рэзультатах няхай дае знаць беларусам у Вільні, бел. арганізацыям або рэдакцыям часапісаў.

У 1936 годзе ўлады ставілі закід, што беларускі народ дамагаецца беларускае школы толькі пад нагаворам агітатараў, а некаторыя старасты заяўлялі, што ўлады даліб беларускія школы, каб ведалі, што беларускі народ сам жадае гэтых школ. Дык трэба паказаць, што гэтае жаданьне выплывае з нутра народнага, што яно не зьяўляецца нічыёй агітацыяй і што беларускі народ хоча мець у Польшчы сваю школу. Гэта трэба цьвярдзіць усюды: на грамадзкіх і гмінных сходах, на вечах урадавых і іншых арганізацыяў, у прыватных гутарках з урадаўцамі. Бязупыннае дамаганьне павінна ўрэшце давесьці да памысных рэзультатаў! Беларусы сваю школу павінны здабыць!

### Забарона вечару бел. культуры.

На 28. XI. быў вызначаны „Дзень Бел. Культуры", ў якім меўся адбыцца також вечар-акадэмія, прысьвечаны бел. культуры. Адміністр. улады аднак на вечар не далі дазволу. Прычыны забароны няведамы.

### З Вільні ў Ліду.

Цэнтр. Камітэт Бел. Нацыянал-Сацыялістаў, якіх дзейнасьць была забаронена 4-ма ваяводамі ў пагранічным поясе, перанёсся з Вільні ў Ліду, якая ляжыць па-за пагранічным поясам. Туды-ж перанесена і рэдакцыя „Новага Шляху", які ў апошнім сваім нумары (з 25. XI) прысьвяціў многа месца востраму змаганьню з камунізмам. Мы маем некаторыя засьцярогі адносна такога змаганьня. Уважаем, што такое праз меру вострае змаганьне ня толькі камунізму ня шкодзіць, але яго рэкламуе, дый нашы людзі вострым выступленьням звычайна ня вераць. Гэту праўду павінен узяць пад увагу ня толькі „Новы Шлях", але і іншыя асобы, якія пяром або словам прабуюць змагацца з камунізмам. Змагацца з камунізмам можна толькі *пазытыўнай* працай і *фактамі*.

### Беларусы ў Варшаве.

Беларуская калёнія ў Варшаве праяўляе штораз болей жыцьця і хацелаб сваю дзейнасьць уняць у нейкія арганізацыйныя формы. З гэтай мэтай болей дзейныя адзінкі прыступілі да заклад зін „Беларускага Культурнага Т-ва", быў апрацаваны статут і паданы ў Камісарыят Ураду на пацьверджаньне. Аднак камісарыят статуту не залегалізаваў, матывуючы тым, што „organizacja nie odpowiada pożytkowi społeczeństwu". Арганізатары адклікаліся ў Міністэрства Унутр. Спраў, але і адтуль прыйшоў адказ адмоўны. Сапраўды выглядае дзіўна, што нават у Варшаве, дзе ўсе нацыянальнасьці маюць свае арганізацыі, беларусам гэтай арганізацыі не дазваляюць! І то ня гледзячы на тое, што статут падпісалі такія выдатныя адзінкі, як праф. Ст. Казура і праф. Бр. Руткоўскі, якія прызнаюць сябе беларусамі, а ініцыятары арганізацыі стаяць на грунце Ягельлёнскай ідэі!

Беларусаў у Варшаве ёсьць каля 2 тысяч.

# З Савецкай Беларусі.

„Чыстка", якая цяпер пануе па ўсім Савецкім Саюзе, не абмінае і Сав. Беларусі. На пачатку лістапада „вычысьцілі" старшыню Цэнтр. Выкан. Камітэту БССР — Стакуна, які быў назначаны на месца скончыўшага самагубствам Чарвякова. Адносна Чарвякова ходзяць чуткі, што ён не пакончыў самагубствам, а проста яго „зьліквідавалі", або як кажуць у Саветах „пусьцілі ў расход", а потым падалі да ведама, што скончыў самагубствам. Гэтак для савецкай улады выгадней, бо пры наладжваньні працэсу робіцца крык аб прасьледзе беларусаў, выносяцца наверх розныя тайніцы сав. жыцьця і г. д., а пры „самагубстве" цішэй. Цікава, што адсунутым ад улады аказаўся також і Жураўлёў, заступнік старшыні соўнаркому БССР, які найболей прычыніўся да зьліквідаваньня

---

пад абаронай Германскай імпэрыі бачыць край сваю добрую долю ў будучыне".

Старшыня Рады *Іван Серада*;
Старшыня Сакратарыяту *Язэп Варонка*. Сябры Рады: *Раман Скірмунт, Антон Аўсянік, Павал Аляксюк, Пётра Крэчэўскі, Язэп Лёсік*.

За тэлеграму галасавала 35 сяброў Рады, 4 проціў, а 4 устрымалася. Гэтакая вялікая большасьць галасоў за тэлеграму сьведчыла аб яе гістарычнай канечнасьці. *Пасьля абвешчаньня акту незалежнасьці трэба было шукаць прызнаньня гэтай незалежнасьці*. Гэтак рабілі і робяць усе народы. Незалежнасьць, якой ніхто не прызнае, ня мае рэальнага значэньня. А ў той час Нямеччына была ўжо прызнаўшы незалежнасьць Польшчы, Літвы, Украіны, дык Рада спадзявалася прызнаньня і Беларусі, калі задэкляруе свой саюз з Нямеччынай. Прыгэтым у тэлеграме некалькі разоў паўтараецца жаданьне незалежнасьці, цэльнасьці і недзялімасьці Беларусі. Хто ведае, што яшчэ прынясе заўтрашні дзень менскім беларусам? — Прычыны і мэты высылкі я шырока абгаварыў у рэфэраце, чытаным у 16-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі і друкаваным у „Бел. Крыніцы" (№ 19, 1934 г.) Чаму „Ш.М." *тады* нічога ня пісаў проціў? Чаму *цяпер* ня хоча раскрыць сваіх перагавораў з польскай дэмакрацыяй? Чаму ўрэшце падае моладзі гісторыю ў фальшывым асьвятленьні?

6) Аб этыцы і культурнасьці ў палеміцы няхай судзяць нашы чытачы. Дагэтуль палеміка „Шляху М." ня мела культурных форм, гэта сьцьвярджаюць усе. Асабістая сварка, якую ўводзіць „Ш.М." таксама да культурных і этычных спосабаў не належыць. Прыгэтым „ШляхМ." ёсьць неконсэквэнтным: раз ён называе ініцыятыву „Б. Фр.", каб ажывіць „Зьвяз", бязглуздзем, безгалоўем, даносам і правакацыяй (у н-ры 10), а другі раз сам зьмяшчае спагадную вестку аб ажыўленьні „Зьвязу", падаючы нават ягоны адрас і ўрад, што мы бачым у н-ры 15. Дык калі „Ш.М." напісаў праўду, першы раз ці другі? І як назваць такую неконсэквэнцыю? А такіх неконсэквэнцыяў у лініі „Шляху М." многа; апошнія нумары „Шл. М." даюць усім многа прыкладаў. Уважныя чытачы самі іх знаходзяць і прысылаюць свае ўвагі. І сапраўды: чаму гэта „Шлях М," замест таго, каб весьці ўзгадаўваўчую і культурную працу пасярод бел. моладзі, заняўся асабістай грызьнёй? Ці часапіс моладзі да гэтага адпаведны? І якая рука ўсім гэтым кіруе?

7) Уканцы заяўляю, што ўсе матар'ялы, прынцыповага і палемічнага характару друкуюцца у „Б. Фронце" ад імя усей рэдакцыйнай калегіі, пасярод якой пануе каапэратыўны дэмакратызм.

*кс. В. Гадлеўскі.*

---

мае 2,644 кв. км., насельніцтва 108 з пал. тысяч, на 1 кв. км. 41 чал., каталікоў 16 тыс., правасл. 82 тыс., жыд. 9 тыс., рэшта іншыя; польская мова 18 тыс., беларус. 24 тыс., „тутэйшая" 56 тыс., рэшта жыды і іншыя. Павет таксама этнагр. беларускі і мае беларусаў найменш 95 тысяч.

*Столінскі* пав. прастору 5,389 кв. км., насельніцтва 125 тыс., на 1 кв. км. 23 чал.; каталікоў 8 тыс., правасл. 104 тыс., жыд. блізу 11 тысяч; польская мова 18 з пал. тыс., беларус. блізу 5 тыс., украінс. блізу 3 тыс., „тутэйшая" 80 тысяч. Гэты павет таксама этнаграфічна беларускі, толькі ў паўднёвай частцы жыве каля 20 тысяч украінцаў, а беларусаў у гэтым павеце мы лічым да 90 тысяч.

*Пінскі* павет прастору мае 5,631 кв. км., насельніцтва (разам з Пінскам) 184 тыс., на 1 кв. км. 33 чал.; *павет* насельніцтва 152 тыс., каталікаў 10 тыс., правасл. 135 тыс., жыд. 5 тысяч; польская мова блізу 22 тыс., беларус. 5 тыс., „тутэйшая" 118 тыс., украінская не азначана. Чаму? Мы ўважаем гэты павет за этнаграфічна мяшаны: беларуска-ўкраінскі, на поўдзень ад Піны ўкраінцы ў большасьці, хоць ёсьць там і беларусы, асабліва па суседзтву з Столінскім паветам, а на поўнач валасьці чыста беларускія. Беларусаў у Пінскім павеце мы налічваем каля 85 тысяч. Горад *Пінск* 32 тысячы, каталікоў 6 тыс., правасл. 5 тыс., жыдоў 20 тысяч; польская мова 7,346 чал., беларус. 592 чал., рас. 2,866 чал., украінс. не азначана. Мы уважаем, што ў Пінску жыве беларусаў найменш 5 тысяч, значыць у ўсім павеце 90 тысяч.

*Драгічынскі і Кобрынскі* паветы ў большасьці ўкраінскія, беларускія ўплывы там слабыя, хоць трэба сьцьвердзіць, што поўночныя часткі паветаў заселены беларусамі. Польская статыстыка беларусаў у Драгічынскім пав. не падала зусім (ўкраінцаў 1,493 чал.), а ў Кобрынскім украінцаў 22 тысячы, а беларусаў 5 тысяч, рэшта „тутэйшыя", Мы лічым, што ў гэтых абодвых паветах беларусаў ёсьць болей 50 тысяч. (Усяго насельніцтва Драгічынскі п. мае 97 тыс., а Кобрынскі 115 тысяч.)

*Берасьцейскі* пав. прастору 4,625 кв. км. насельніцтва 216 тыс. на 1 кв. км. 47 чал.; сам *павет* мае насельніцтва 167 з пал. тыс., каталікоў 25 тыс., правасл. 127 тыс., жыд. блізу 11 тысяч; польская мова блізу 30 тыс., беларус. блізу 16 тыс., украінс. 17 з пал. тыс. „тутэйшая" 93 тысячы. Гэты павет мяшаны беларуска-украінскі, уплывы там бадай роўныя, на поўнач ад Берасьця жывуць беларусы, а на поўдзень украінцы. Беларусаў у Берасьц. п. мы лічым каля 75 тысяч. Горад *Берасьце* насельніцтва 48 тысяч, кат. блізу 18 тыс., правасл, блізу 9 тыс., жыдоў 21 з пал. тысяч; польская мова 20 тыс., беларус. 1,327 чал. украінс. не азначана, рас. 2 з пал. тыс., „тутэйшая" 2 тысячы. Мы лічым у Берасьці каля 5 тысяч беларусаў; значыць, у цэлым павеце 80 тысяч.

Падсумоўваючы беларус. насельніцтва Палескага ваяводзтва атрымаем *575 тысяч*.

Але беларусы жывуць ня толькі на беларус. этнагр. тэрыторыі, яны жывуць яшчэ і ў іншых ваяводзтвах. Паводле афіц. польскай статыстыкі ў Валынскім ваяв. ёсьць 2,400 беларусаў, у Люблінскім 1,200, а також ў некаторых іншых дробныя лічбы. Ведаем таксама (хоць аб гэтым польская статыстыка маўчыць), што па большых гарадох Польшчы знаходзяцца беларусы, і так у адной Варшаве ёсьць каля 2,000 беларусаў, куды яны выехалі на працу. Сколькі ёсьць усіх, рассеяных па ўсей Польшчы беларусаў, згадаць трудна, а статыстыкі ў гэтым кірунку ніхто не рабіў, але нам здаецца, што іх ёсьць болей 20 тысяч.

Такім парадкам лік усей беларускай масы ў Польскай дзяржаве прадстаўляецца так:

| | | |
|---|---|---|
| Віленскае ваяводзтва | 845 | тысяч, |
| Наваградзкае „ | 920 | „ |
| Беластоцкае „ | 645 | „ |
| Палескае „ | 575 | „ |
| усяго | 2,985 | тысяч. |

Калі да гэтага дабавім яшчэ 20 тысяч беларусаў рассеяных па ўсей Польшчы, атрымаем *тры мільёны і 5 тысяч* беларусаў у Польшчы. Але гэты лік адносіцца да 1931 году, за 6 гадоў насельніцтва ў Польшчы прыбыло каля 2 мільёнаў 600 тысяч, гэта значыць каля 8 працэнтаў. Але трэба ведаць, што плоднасьць на ўсходзе Польшчы большая, чым на захадзе або ў цэнтральных правінцыях і мы не памылімся, калі скажам, што беларусаў прыбыло *ня 8 але 10* працэнтаў, значыць 300 тысяч чалавек, што дасьць у суме **3 мільёны 300 тысяч** беларусаў у Польшчы. Магчыма, што гэтую лічбу польскія статыстыкі будуць аспрэчваць, закідаючы, што яна толькі прыпушчальная і робленая паводле падрахунку „на вока", але мы можам заявіць на гэта, што каб беларусам была дадзена магчымасьць аблічэньня сваей этнаграфічнай масы з афіцыяльнымі сьпіскамі у руках, дык лічба ня толькі не былаб меншая, але магчыма яшчэ большая.

*В. Г.*

Канец.

---

*БЕЛАРУСЫ, калі хочаце ўсебакова пазнаць беларускую і сусьветную палітыку, выпісвайце „Беларускі Фронт"! Прысылайце складкі і ахвяры! Пашырайце газэту пасярод сваіх знаёмых!*

# На міжнародным грунце.

*(Агляд міжнароднай палітыкі за месяц лістапад).*

### Японска-кітайская вайна.

На паўночным кітайскім фронце, пасьля заняцьця японцамі прастору на поўнач ад Жоўтай ракі, наступленьне японцаў прыпынілася, але затое каля Шанхаю японцы пруць цэлай сілай уперад. Стварыўшы для сябе моцны вайсковы пляцдарм у шанхайскім порце і падгатовіўшыся да рашучай атакі, японцы ўдэрылі на слаба ўваружаных Кітайцаў і прымусілі іх да адступленьня. У часе адступленьня дэзарганізуецца нават найлепшая армія, а што гаварыць пра кітайскую? Затым японцы ідуць наперад, не спатыкаючы большага супраціву. Мэта іх — заняцьце Нанкіну, сталіцы Кітаю. Кітайскі ўрад выехаў часткова ў Ханкоу, а часткова ў далёкі Чункінг, які ляжыць ад Шанхаю на 2 тысячы кілёмэтраў. (Ад Шанхаю да Нанкіну 250 км.) Ці кітайцы будуць бараніць Нанкіну, ці адступяць углыб сваей краіны — згадаць трудна, некаторыя кажуць, што Чанг-Кай-Шэк хоча застасаваць тактыку Кутузава, які ўцягнуў Напалеона углыб Расеі, каб потым яго зьнішчыць... Ясна, што для японцаў такая тактыка былаб горшая: для іх найвыгадней былоб зьнішчыць кітайскую армію адразу, што яны ўжо часткова зрабілі пад Шанхаем. Але і для Чанг-Кай-Шэка ўтрата сталіцы і багатых прыморскіх правінцыяў былаб таксама вялікім моральным і матэр'яльным удэрам, прэстіж ягоны, як павадыра, паўбы, урэшце Кітай быўбы адрэзаны ад францускіх і англ. калёніяў, кудою дастаўляецца аружжа. Якую тактыку застасуе Чанг-Кай-Шэк, пакажа недалёкая будучыня.

А тактыка японцаў у Кітаі цяпер такая; аддзяліць ад Кітаю ўсе правінцыі з некітайскім насельніцтвам (Манголія), утварыць у паўночным Кітаі аддзельны ўрад; тварыць такіяж ўрады ў кожнай занятай правінцыі; не дапускаць, каб гэтыя ўрады ўваходзілі з сабою ў зносіны; узалежніць іх ад Японіі, а прадусім зьнішчыць кітайскую армію. Кітайцы б'юцца добра і з занятых пазыцыяў ня сходзяць, але дзеля таго што тэхніка ў іх слабейшая, чым у японцаў, яны намагаюць людзьмі, што прычыняе аграмадныя страты у людзях, а пры адступленьні і ў аружжы. Да гэтага далучаецца нястача санітарнай помачы, хваробы і г. д. так што знаўцы лічацца з поўным разгромам кітайскай арміі. Кажуць, што Чанг-Кай-Шэку ня ўдасца абараніць Нанкіну і арганізаваць новую армію. Рэзэрвы, якія падыходзяць, да бою з японскай тэхнікай няздольны.

У апошнім часе разышліся чуткі аб пасрэдніцтве у японска-кітайскай вайне Гітлера; газэты пісалі, што за цану ўступленьня Манджурыі, Манголіі, Паўночнага Кітаю і далучэньня Кітаю да антыкамуністычнага саюзу Японія згадзіласяб спыніць крываваю разьню ў Кітаі. На гэтыя варункі кітайскі ўрад ня ідзе, бо гэта былаб поўная капітуляцыя і падданьне краю пад уладу Японіі.

Бруксэльская канфэрэнцыя 9-ці дзяржаў, якая была сабраўшыся ў пачатку лістапада, выявіла сваю бясьсілу. Там ня толькі ня было гутаркі аб якімсь націску ці санкцыях проціў Японіі (як гэта было проціў Італіі ў часе абісынскай вайны), але нават аб пратэсьце, толькі была выслана яшчэ адна нота, запрашаючая Японію на канфэрэнцыю, але Японія і на гэты раз адказалася.

Чарвякова. Пайшоў таксама ў дымісыю камісар асьветы БССР — Варончэнка, які быў назначаны пасьля арыштаваньня ягонага папярэдніка Дзякава. На месца Варончэнкі назначаны нехта Півовараў, чысты расеец.

### Англія шукае саюзу з Нямеччынай.

Пасьля няўдачы з Бруксэльскай канфэрэнцыяй, Англія выслала ў Нямеччыну свайго выдатнага палітыка, лёрда Галіфакса, каб разьведаць пляны і жаданьні Нямеччыны. Галіфакс гаварыў з усімі выдатнымі нямецкімі палітыкамі: Нойратам, Герынгам, Шахтам і з самым Гітлерам. Гутаркі трымаюцца ў вялікай тайне, але прэса піша, што ў гутарцы з Галіфаксам Гітлер высунуў такія жаданьні: 1) зварот калёніяў, прыгэтым Гітлер падаў праект падзелу калёніяў паводле ліку насельніцтва ў кожнай дзяржаве. На аснове гэтага праекту Нямеччына, якая мае 70 мільённаў насельніцтва, павінна былаб атрымаць болей калёніяў чым Англія, якая мае 45 мільёнаў; 2) Справа далучэньня Аўстрыі да Ням. ёсьць нутраной справай нямецкага народу і іншыя дзяржаы ня маюць права ўгэта умешвацца; 3) Справа Чэхаславаччыны будзе вырашана пасьля таго, як нямецкая меншасьць тамака атрымае аўтаномію; 3) Нямеччына вернецца ў Лігу Народаў тады, калі вырашуцца ўсе папярэднія справы і калі Статут Лігі будзе аддзелены ад Вэрсальскага трактату; 5) Нямеччына стаіць на грунце не агульных (саборных) дагавораў з усімі дзяржавамі, а на грунце пасобных дагавораў з кожнай дзяржавай.

Пункты, як бачым, для Англі зацяжкія і яна на іх ня згодзіцца Пункт другі цікавы тым, што ён пацьвярджае дакананы паміж Мус солінім і Гітлерам падзел уплываў: Муссоліні падчас сваей візыты ў Бэрліне згадзіўся на аншлюс Аўстрыі, а Гітлер аддаў пад уплывы Італіі Гішпанію. Некаторыя газэты пішуць, што ў палітыцы Англіі ёсьць хітрасьць: яна яшчэ не ўваружылася і затым пачала перагаворы з Нямеччынай — яна хоча адцягнуць справу хоць на год, а пасьля загаворыць інакш...

Зараз пасьля павароту лёрда Галіфакса ў Лёндын, туды былі выкліканы францускі прэм'ер Шотан і мін. загр. спраў Дэльбо, з якімі адбыліся нарады над сытуацыяй. Здаецца, што гэтыя нарады нічога ня зьменяць. Пасьля лёндынскіх нарадаў Дэльбо выбіраецца ў Варшаву, Букарэшт, Прагу і Белград, каб абгаварыць сытуацыю з Польшчай і з Малой Антантай. Як ведама на Польшч цяпер робіцца вялікі націск, каб яна далучылася да антыкамуністычнага саюзу, дык Дэльбос мае ўдзяржаць яе ад гэтага. Газэта „Nowa Prawda“ (27.XI) орган Строн. Працы (фронту „Морж“), піша, што прыезд Дэльбо ў Варшаву бескарысны, бо ён ня можа зьмяніць добра ўсім ведамай сытуацыі. Якая гэта сытуацыя газэта выразна ня кажа. Ад сябе адзначым, што ўсёжтакі ёсьць надзея зьмяніць, бо Дэльбо ў Варшаву прыехаў.

### Саветы.

У сувязі з ведамым прыездам мін. Дэльбо у Варшаву, Літвінаў быў падаўшы прапазыцыю, каб Дэльбо адведаў і Маскву, але Дэльбо гэтую прапазыцыю адкінуў. Францускі міністар загр. спраў відаць зразумеў, што пры цяперашніх антыкамуністычных настроях яго візыта ў Маскве былаб дражненьнем і так напружаных міжнародных адносін. Дзеля гэтага газэты пішуць аб поўнай ізоляцыі Саветаў, да якіх баіцца ехаць нават міністар саюзнай дзяржавы! З гэтай прычыны Літвінаў быццам страціў ласку ў Сталіна і мае быць заменены Патёмкіным, савецкім паслом у Парыжы, б. расейскім арыстаратам.

Камуніст. партыя пачала цяпер „чысьціць“ сваю дыплямацыю, выклікалі ў Маскву і арыштавалі многа паслоў (полпрэдаў) пры розных дзяржавах, а паміж іншымі і пасла ў Варшаве Давтіана, а такжа ведамага Антонова - Овсеенко, які у 1917 г. адзначыўся пры здабываньні Зімняга дварца ў Петраградзе. „Чыстка“ закранула нават вярхі кампартыі і ўраду. І так былі „вычышчаны“: б. камісар асьветы Бубноў, камісар ваен. абароны Рухімовіч, камісар фінансаў Грынько і многія іншыя. Растрэлы адбываюцца кожны дзень.

Калі гэтая чыстка скончыцца, няведама. Гэта аслабляе Саветы і на загранічным грунце, дзе з Саветамі ўжо перастаюць лічыцца. З усяго відаць, што Саветы у вайну з Японіяй ці з кім іншым не палезуць, а будуць дзяржацца толькі абароннай тактыкі.

На прасторы ўсяго Сав. Саюзу на 12.XII. назначаны „выбары“ у Вярхоўны Савет (парлямант) і Раду нацыянальнасьцяў (Сэнат); кандыдатаў выстаўляць могуць толькі камуніст. арганізацыі або зьбліжаныя да іх (іншых там няма), а галасаваць могуць усе. У гэтым і ляжыць сутнасьць савецкіх „дэмакратычных“ выбараў! Яшчэ дзіўней, што ў кожнай акрузе выстаўлены *толькі адзін* кандыдат, вынятак становіць адна Тіхарэцкая акруга, дзе выстаўлены тры кандыдаты. Прынамся хоць у гэтай акрузе выбаршчыкі змогуць выбраць з трох аднаго! Ня трэба мусіць успамінаць, што ўсе тры—камуністы. Гэтая выбарчая савецкая ардынацыя моцна прыпамінае ардынацыю ў Польшчы, паводле якой у выбарах 1935 г. маглі ставіць кандыдатаў самаўрады, а галасаваць усе. А як самаўрады залежаць ад старастаў, дык ясна, што кандыдаты выстаўляліся са згоды ўраду. Падобны парадак цяпер уведзены ў Саветах, Нямеччыне, Італіі і Літве.

### Фашыстоўскі пераварот ў Бразылії.

У Бразыліі, найбольшай дзяржаве паўднёвай Амэрыкі (крыху меншая за ўсю Эўропу) і маючай 34 мільёны жыхарства, адбыўся фашыстоўскі пераварот. Дагэтуляшні прэзыдэнт Варгас, пры помачы войска, захапіў уладу ў свае рукі, распусьціў законадаўчыя палаты і абвесьціў новую канстытуцыю, запазычаную ад італьянскага фашызму. Пераварот гэты мае аграмаднае палітычнае значэньне, бо ўзмацняе фашыстоўскі блёк і будзе мець уплыў на ўсю паўдн. Амэрыку. Француская прэса пісала, што браз. пераварот гразіць Злуч. Штатам, Англіі і Францыі і азначае інтэрвэнцыю фашыст. дзяржаў на амэрыканскім грунце. Пераварот мае значэньне палітычнае, эканамічнае і фінансавае. Палітычнае— бо ў Амэрыцы зьявілася ўлада, падобная да італьян. і нямецкай. эканамічнае — бо Ням. і Італія змогуць даставаць у Бразыліі патрэбную ім сыравіну, фінансавае — бо Бразылія спыніла выплату загранічных даўгоў, а гэта б'е прадусім па Злуч. Штатах, Англіі і Францыі, гэтым тром сусьветным банкірам. Дзяржавы гэтыя былі ўлажыўшы ў Бразылію шмат капіталаў. Ці іх цяпер вернуць? Кажуць, што ў Бразыліі загрожана болей іх капіталу, чым у Шанхаі і ўсім Кітаі! Дзеля гэтых і іншых прычын наступіў крах на н'юёрскай біржы бадай усіх вартасьцёвых банкавых папераў.

Ці Бразылія прыступіць да антыкамуністычнага саюзу—яшчэ няведама.

# З Польшчы.

*Тварэньне ОЗН-у.* Нутраное палажэньне Польшчы знаходзіцца далей пад знакам вялікай дыфэрэнцыяцыі польскага грамадзянства. Ідэолёгічнае змаганьне, дзяльба, злучаньне, разлучаньне, паўставаньне новых партыяў на парадку дня. Часам трудна было зар'ентавацца, хто з кім і проціў каго. Цяпер палажэньне трохі выясьняецца. Прычынай такога закалоту было тварэньне ОЗН-у, які мае сваіх сымпатыкаў, але яшчэ болей ворагаў і на які ўсе зварочваюць увагу, як на будучую ўрадавую партыю. Прыгэтым ідэолёгічная і тактычная лінія ОЗН-у была (і ёсьць) даволі нявыразнай: раз хіліцца ўправа, ў кірунку фашыстоўскай „Falangi“, раз улева — да ППС, а наагул хоча быць у цэнтры. Проціў злучэньня ОЗН-у з „Фалянгай“ паўсталі „левыя“ кругі санацыі, якія стварылі свае групы: „Lewica patriotyczna“ і „Klub Demokratyczny“ і якія перайшлі ў настолькі вострую атаку проціў ОЗН-у, што аж выклікалі інтэрвэнцыю марш. Сьміглага-Рыдза. Цяпер атакі трохі ўціхлі, дзякуючы гэтай інтэрвэнцыі і аддаленьня ОЗН-у ад «Фалянгі». Палітычнае палажэньне настолькі было завастрыўшыся ў лістападзе, што пачалі гаварыць аб „начы сьв. Баўтрамея“, ў якую фалянгісты мелі выразаць сваіх ворагаў, так як у 1572 г. кароль францускі Караль IX загадаў выразаць сваіх палітычных ворагаў —гуганотаў! Але скончылася усё на плётках і на страху — ў Польшчы начы сьвятога Баўтрамея ня было! «Falanga»—гэта адзін з адламаў ONR або „Obozu Narodowo-Radykalnego“, вясьціць ступрацэнтавы польскі фашызм і ідзе з клічам „przełomu narodowego“ або інакш кажучы нацыянальнай рэвалюцыі ў кірунку фашыстоўскім. Аб дзікай праграме „Falangi“ будзем яшчэ пісаць.

*ППС на замку.* Да цікавых падзей з паліт. жыцьця Польшчы належыць візыта ППС у Прэзыдэнта Дзяржавы. Пэпэасы прадставілі Прэзыдэнту мэморыял, у каторым выразілі свае пажаданьні, спасярод якіх найгалаўнейшае — правядзеньне *чыстых* выбараў у Сойм і Сэнат; гэтыя выбары маюць вывесьці польскае паліт. жыцьцё з хаосу, уякім яно апынулася. У гэтым кроку ППС некаторыя бачаць прапазыцыю супрацоўніцтва з урадам. Каб выясьніць палажэньне краю, Прэзыдэнт склікае нараду ўсіх ваяводаў, на каторай будзе і марш. Сьміглы.

ППС звярнулася з афіц. прапановай супрацоўніцтва з людоўцамі (Вітасоўцамі), але людоўцы хочуць весьці сваю самастойную лінію і ня хочуць лучыцца ані з ППС, ані з Строн. Працы (фронт Морж). На чале Строн. Працы сталі: б. прэзыдэнт Вайцехоўскі, ген. Гальлер, ген. Сікорскі, Падэрэўскі, Попель. „Строніцтва“ ёсьць вельмі франкафільскае,

**Рэдакцыйная калегія:**

*інж. Л. Дубейкаўскі,*
*мгр. В. Гадлеўскі,*
*мгр. М. Шкелёнак,*
*студ. В. Папуцэвіч,*

Адказны рэдактар: *мгр. В. Гадлеўскі.*



*Наступны нумар „БЕЛАРУСКАГА ФРОНТУ“ выйдзе 5-га студня.*

Выдавец: В. Папуцэвіч. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14.